ВЫДАННЕ АДДРУКАВАНА І РАСПАЎСЮДЖВАЕЦЦА Ў АДПАВЕДНАСЦІ З ЗАКОНАМ «ЗАКОН РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ АБ ДРУКУ І ІНШЫХ СРОДКАХ МАСАВАЙ ІНФАРМАЦЫІ».



ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ НА МЕСЯЦ

Мой родны кут, як ты мне мілы...
*Якуб Колас*

# КРЫНІЦА

№ 8 (8), снежань 2007 г. Грамадска-інфармацыйнае выданне мястэчка Малеч

# *Сардэчна віншуем з Калядамі і Новым 2008 годам!*

*Шаноўныя аднавяскоўцы!Шчыра віншуем усіх вас з наступіўшым 2008 годам і Нараджэннем Хрыстовым. Зычым добрага здароўя, шчасця, цудоўнага настрою, поспехаў ва ўсіх справах. Хай абмінуць вас розныя нягоды і непрыемнасці. Жывіце ў міры з блізкімі і роднымі людзьмі. Шануйце, паважайце і любіце сваіх бацькоў. Памятайце аб продках. З чыстым сэрцам і адкрытай душой вітайце Нараджэнне Хрыста! Хай у святыя Калядныя вечары Бог народзіцца ў кожным чалавечым сэрцы.*

*Каб 2008 год стаў для ўсіх нас чарговым крокам падрыхтоўкі да Юбілею 500-годдзя выдання Бібліі Францішка Скарыны, які будзем святкаваць у 2017 годзе.*

*Хай Слова Божае стане заахвочваннем для ўсіх нас быць сведкамі падзеі*

*У сулучнай малітве няхай дапамогуць нам натхнёныя словы народнага паэта, хрысціяніна Рыгора Барадуліна:*

**Божа, пашлі Беларусі**
**Ласку з Тваімі вачамі,**
**Сэрцы суцеш у скрусе,**
**Злітуйся над крывічамі.**
**Хай беларус беларуса**
**Будзе любіць як брата.**
**Светлым імем Ісуса**
**Наша крывіцка хата.**
**"Маленне за Беларусь"**

*Яшчэ раз усіх вас з Божым Нараджэннем і Новым 2008 Годам Гасподнім і вітаем святочным вітаннем:*

*Хрыстос нарадзіўся — Яго славім!*

*Рэдакцыя "Крыніцы".*



*Святло Віфліема*

## ЧАМУ КАЛЯДЫ СВЯТКУЮЦЦА ДВОЙЧЫ

На беларусі Нараджэнне Хрыстова адзначаецца двойчы, і два дні пазначаны чырвоным колерам у календары краіны, адна дата — 25 снежня, другая — 7 студзеня. У чым справа?

Як вядома, хрысціянскі свет амаль з самага пачатку свайго існавання вёў летазлічэнне па юліянскім календары, у якім Нараджэнне Хрыстова абазначана апошнім днём зімовага сонцастаяння, а Новы год пачынаўся на сёмы дзень пасля Нараджэння Ісуса Хрыста. Гэты каляндар увёў у 46 годзе да н. э. рымскі імператар Юлій Цэзар. Юліянскі каляндар, на жаль, быў не зусім дакладны пры падліку часу, у выніку чаго да сярэдзіны 16 ст. Каляндарныя дні адставалі ад астранамічнага года на 13 дзён. Таму ў 1582 годзе Папа Грыгорый Дванаццаты правёў рэформу календара ў адпаведнасці з удакладненымі астранамічнымі даннымі. Адсюль і пайшла назва — грыгарыянскі каляндар.

Праваслаўная царква не падтрымала рэформу календара і па-ранейшаму вядзе летазлічэнне па старым стылі. Вось таму і не супадаюць даты каталіцкіх і праваслаўных Каляд, маючы розніцу ў 15 дзён. Абедзве рэлігіі хрысціянскія, яны раўнапраўныя, а паколькі ў нашай краіне сярод веруючых есць і каталікі, і праваслаўныя, Дзень Нараджэння Хрыста лічыцца святам для ўсіх і афіцыйна адзначаецца два разы.

Святкаванне нараджэння Хрыстова ў народзе пачынаецца 24 снежня (6 студзеня) з усходам першай вячэрняй зоркі, якая абвяшчае ўсяму свету аб часе нараджэння Сына Божага. Са з'яўленнем такой зоркі ў вернікаў заканчваецца Піліпаўскі пост і пачынаецца "Рождественский сочельник", так называе праваслаўнае духавенства гэты вечар. Перад абразамі запальваюць свечкі, моляцца Богу і ўсёй сям'ёй вячэраюць.

***У. М. Сысоў***
***"З крыніц спрадвечных"***

наша история

# КАБАКИ



*Кабаки. Усадебный дом. Парадный фасад. Фото до 1911 г.*

В 1563 году владение Кабаки составляло 24 волоки земли. Входило в состав Пружанской экономии. В 1795 г. После раздела Речи Посполитой было подарено Екатериной Второй наследникам покойного генерал-фельдмаршала графа П. А. Румянцева-Задунайского вместе с деревнями Ревенки, Залужье, Подгородье, Павловичи, Мещанка, а так же местечко Дивин с несколькими деревнями, в которых проживало 2650 мужского и женского пола. Они вскоре продали Кабаки Павлу Ягмину, владельцу Вистычей. В 19 веке владельцами стали Влодко. В 1890г. Имение Камилы Влодко с фольварком Каменица включало 1399 десятин земли. Как приданное её дочери Софьи (1885—1938). Отошло вначале 20-го века Витольду Свентицкому (1873—1951). Его сын Владислав (1904—1940), выпускник сельско-хозяйственного института в Бельгии, администратор имения, был убит весной 1940 года в Катыни.

Влодко заложили большую усадьбу на ровной слегка приподнятой территории. Центром её композиции стол Т-образный в плане каменный одноэтажный с центральной двухэтажной частью усадебный дом. Вход на главном фасаде был выделен трёхарочной аркадой, на которой крепилась терраса с каменной балюстрадой. Фасад верхнего этажа с тремя порте-фенетрами завершался треугольным фронтоном и расчленялся пилястрами. Здание имело боковые одноосевые ризалиты также с большими окнами, к которым примыкали небольшие балконы.

Усадьба сохранилась в виде отдельных разрозненных фрагментов, которые ещё передают общие черты планировки и её былое величие. К парадному партеру, где ещё сохранился фундамент дома (30х20м), через сад ведёт широкая (13м), хорошо сохранившаяся аллея. Сложена крупными конскими каштанами с уже дуплистыми толстыми (до 1м в диаметре) стволами и одиночными клёнами. Партер был большим, что достигалось расположением традиционного круга на значительном удалении от усадебного дома. К нему через газон от дома вела дорожка, оформленная рабатками.

На главной оси за домом расположена вторая, более короткая аллея из конского каштана. Ось завершается водоёмом прямоугольной формы (70х30м), от которого отходит канал. Вдоль аллеи расположен разреженный парковый древостой из ясеня, граба, клёна, среди которых редкий по размерам и декоративности экземпляр липы крупнолистой (диаметр кроны до 20м). В парке было много редких растений. В последнее время выпали ясень обыкновенный, лиственница, сосна веймутова. Пейзажный парк перед парадным партером утрачен. Среди сохранившихся одиночных деревьев привлекают внимание серебристой листвой очень старые и дуплистые с изогнутыми стволами два дерева ивы белой, редкий вид в парках Беларуси.



*Кабаки. Флигель. Фото 1999 г.*

К парку с усадебным домом примыкали многочисленные служебные и хозяйственные сооружения. Здания построены Влодками и Свентицкими из светло-красного или тёмно-красного кирпича в простых форма утилитарной архитектуры. Сохранились бровар с приёмником спирта (18х9м), в кладке стен которого нерегулярно чередуются ряды «ложка» и «тычка», так называемая молочная, конюшня (20х14м) и др. Хорошо сохранился жилой дом, построенный в 1912 году. Углы оформлены лопатками и завершены квадратными башенками. Вход выделен ризалитом.

Большая в прошлом усадьба запущена, интенсивно разрушается КУСП «Берёзовский». Необоснованно разобраны усадебный дом и другие сооружения. В 2000 г. Разрушено большое хозяйственное здание. Исчезают последние редкие виды деревьев.



*Кабаки. Конюшня. Фото 1999 г.*

# ГАБРИЕЛИН

Примерно в начале 19 века одновременно с Кабаками Влодко купили небольшой, рядом расположенный фольварк, и заложили здесь новую усадьбу, назвав её именем жены владельца. В апреле 1863г. Шчасный Влодко (псевдоним Самуха, или Здеховский) сформировал в Пружанском уезде повстанческий отряд с численностью до 300 человек, но не имел должного вооружения. Только передняя шеренга отряда имела ружья, часть которого производилась в мастерской имения. Вооружение второй шеренги составляли косы, вилы, а третьей — в основном дубины. После поражения восстания имение конфискуется и переходит российскому генералу Соллогубу. В 1890г. Имением владел Алексей Бажанов. Земельные угодья с фольварками Павловичи, Анелин, Шеплюги составляли 1815 десятин. В начале 20 века владельцем стал Александр Гутовский, а после него сын Станислав.

Усадьба была заложена на возвышении среди поля, включала усадебный дом на высоком цоколе и с портиком на парадном фасаде, парк с маленьким водоёмом, небольшой хозяйственный двор. К двору через поле вела длинная липовая аллея. Дом был разобран в 1950 годы для строительства Малечской школы. Не уцелели и хозяйственные постройки. От усадьбы сохранился только древостой парка среди поля на площади примерно около 4 га. Планировочное построение парк утеряно. Древостой принял вид сплошного массива, среди которого имеются небольшие поляны, зарастающие дорожки. От первоначального древостоя остались одиночные, примерно, двухсотлетние липы и ясени. Фоновым деревом стал граб, образуя сплошной полог высокой сомкнутости невысокого качеств, со слабым напочвенным покровом. Может служить основой для создания парка путём ландшафтных рубок и перепланировки.


*Кабаки. Парк. Ива белая. Фото 1999 г.*

***А. Т. Федорук***

***«Старинные усадьбы Берестейщины»***

***По предложению***

***И. Н. Данилевича***

## ГЭТА Ж САМАЯ САПРАЎДНАЯ КАРУПЦЫЯ!

Прачытаў у незалежнай прэсе, ўжо па прэзідэнцкім указе ўчарашнія і сённяшнія дэпутаты так званай Палаты прадстаўнікоў, выходзячы на пенсію, маюць у месяц больш як па два мільёны рублёў. Адным словам, па тысячы долараў.

Няхай Лукашэнка дае ім хоць па пяць мільёнаў. Але пры адной ўмове, што пенсіі ў тых людзей, якія па сорак і болей гадоў адстаялі ў станка, ля аперацыйнага стала, за інстытуцкай кафедрай, адпрацавалі на будоўлях, у школах, у бальніцах, у калгасах і саўгасах, будуць меншыя, чым у тых жа дэпутатаў, усяго на 20—25 працэнтаў.

А то што атрымліваецца? Усе маюць мізэрныя пенсіі, а тым, хто прыслугоўваў уладзе нейкія чатыры гады, кідаюць царскія "пособия". Гэта ж самая сапраўдная карупцыя! Ты галасуй так, як табе дыктуюць зверху, а ў абмен на гэта выйдзеш на пенсію і будзеш мець у месяц больш за два мільёны рублёў.

Куды глядзіць Канстытуцыйны суд? Куды глядзіць Генеральная пракуратура? Ёсць ветэранская арганізацыя пад кіраўніцтвам Новікава. Чаму яна маўчыць? Несправядлівасць відавочная, нельга дапускаць, каб з-за гэтага пашыраўся раскол у грамадстве.

***Раман Ткачук, г. Бяроза***

## "ДАЖЫНКІ-2008" ПРОЙДУЦЬ У ОРШЫ

Рэспубліканскі фестываль-кірмаш працаўнікоў вёскі "Дажынкі-2008" пройдзе ў другой дэкадзе верасня 2008 года ў горадзе Орша і Аршанскім раёне Віцебскай вобласці. Такое рашэнне, як паведамляе прэс-служба прэзідэнта, прыняў Аляксандр Лукашэнка.

Для падрыхтоўкі і правядзення свята распараджэннем кіраўніка дзяржавы ўтвораны арганізацыйны камітэт пад старшынствам намесніка прэм'ер-міністра Івана Бамбізы.

## У ЖЛОБІНСКІМ РАЁНЕ ВЯСКОЎЦАЎ АПРАНУЦЬ У СПЕЦАДЗЕННЕ

Спецадзенне падрыхтуюць для працаўнікоў сельскй гаспадаркі ў Жлобінскім раёне. Адпаведную замову выконвае мясцовая фабрыка мастацкай інкрустацыі.

Усе халаты, камбінезоны і касцюмы маюць спецыяльную вышыўку. Ужо падрыхтаваная эксперыментальная партыя. Ідэя апрануць вяскоўцаў у аднолькавую ўніформу належыць раённаму камітэту прафсаюзаў працаўнікоў сельскай гаспадаркі.

***"Народная воля" 13 снежня 2007г.***

# *ЧЕМ ВАМ ЗАПОМНИЛСЯ 2007 ГОД?*



***ИДА ИОСИФОВНА:*** В этом году родился правнук. Это самое-самое радостное событие. Повысили пенсию. Зять работал в Ливии, а с этого года работает в Индии — это тоже приятно. Отметили 80-летие свахи. Дай ей Бог здоровья. В общем, хорошего было очень много.




***АНАТОЛИЙ СТЕПАНОВИЧ:*** Очень тяжелый год в моральном и душевном плане. Так с людьми поступать нельзя, как поступили со мной. Все это связано с работой. В душе остался очень горький осадок.



***ТАТЬЯНА АЛЕКСЕЕВНА:*** Год запомнился празднованием юбилея Малеча, а также проведением других мероприятий, которые, на мой взгляд, прошли удачно. Хотелось бы, чтобы больше внимания уделяли сельский Совет, Агрофирма и другие организации.



***НИКОЛАЙ НИКОЛАЕВИЧ:*** Самое главное, что в 2007 году я обрел свободу, получил паспорт, имею работу. Здоровье хорошее. Этот год был для меня более, чем благополучный.



***ІЛЛЯ:*** А што ўжо скончыўся 2007 г.?

Ну тады, нават і няведаю, быў сапраўды ўдалы год, шмат чаго адбылося, можа незаўжды як хацелася б, але ўсё ж такі, як ёсць. Дзякуй Богу!

# Малечская святыня

Так уж получается на земле, что недолговечна память человеческая. Забывают деяния отцов, дедов, прадедов, забывают плохое и хорошее, забывают то, что произошло 300 лет назад и не помнят, что было вчера. Забывают то, что совсем бы уж не следовало забывать — не помнят о своих святынях, забывают Бога. Разумеется, не исключение и автор, и поэтому в данной статье мы постараемся хоть немного вспомнить... Вспомнить о нашей местной святыне — Чудотворной иконе Божьей Матери Малечской.

По легенде, икону обнаружили люди недалеко от современной деревни Хойники. Позже на этом месте была построена часовня. В источниках первый раз икона упоминается ещё в 1693 г. в документе «Освобождение Малечской корчмы от подати капщизны» (налог на продажу алкогольных напитков в Речи Посполитой — прим. авт.), где уже известная читателям Изабелла Ходкевич просит блуденьских арендаторов и подстарост не взимать с корчмы, принадлежащей Малечской церкви, пошлин от продажи пива, водки и мёда, так как И. Ходкевич ежегодно жертвовала 5 злотых на свечи перед иконой Божьей Матери Малечской. Далее сведения о ней исчезают из официальных документов вплоть до 1864 года, когда председательствующим временного уездного комитета по сооружению православных церквей производился осмотр Малечской Свято-Симеоновской церкви, и двух часовень, находящихся на территории прихода. В акте осмотра упоминалась и Чудотворная икона: «...Часовня, замечательная по Чудотворному образу Пресвятыя Богородицы и служащая предметом поклонения как православного так и католического населения, привлекая в известные дни тысячи поклонников ... икона Чудотворная в простой ясеневой раме, и вообще нет следов приношений поклонников, доходящих до 25-и раз середины в месяц...».

Малечские и хойникские старожилы, жившие в 20—30-ых годах прошлого века, вспоминают, что от Малечской церкви к часовне на праздники совершался крёстный ход, потом икону уносили обратно в храм. Очевидно, что до постройки часовни икона находилась в храме, после её перенесли в часовню, а уже перед первой мировой войной икону снова стали хранить в храме, чтобы уберечь от грабителей. Часовня ведь находилась в отдалении от населённых пунктов.

Часовня, выстоявшая во время всех войн, не выдержала очередной волны борьбы коммунистической власти против религии. В 60-ых гг. прошлого века здание разобрали на дрова, а наиболее ценные элементы старинного декора увезли. Долгое время было не совсем ясно, что же произошло с самой иконой. Сведений о том, что увезли и её, не было. Следовало предположить, что раз икона в 20—30-ых годах содержалась в храме, то там она и должна быть. Оставалась проблема идентификации. После тщательного изучения иконостаса выяснилось, что на роль Чудотворной иконы Матери Божьей Малечской мог претендовать только один образ. Это была маленькая иконка медальонного типа, написанная цветной эмалью и выполненная техникой XVII—XVIII вв. Притом это икона неизвестная, она не является списком (копией) какой-либо другой иконы. Кстати название этой иконы не смогли определить и в 1924 г., так как в Описи церковного имущества за этот год (документ хранится в Малечской Свято-Симеоновской церкви) икона названа одновременно и Жировичской, и Ченстоховской, датируется XVIII в. Но это очень известные иконы, и они не имеют никакого отношения к вышеназванному образу. Киот, в котором находится икона, и оклад сделаны гораздо позднее — на протяжении XIX—XX вв.



Таким образом, несмотря на то,что документального описания Чудотворной иконы пока не обнаружено, с очень большой долей вероятности можно утверждать, что неизвестная икона — это и есть позабытая малечская святыня — образ Божьей Матери Малечской.

Кстати, при попытке сделать фотоснимок иконы два раза нужные кадры оказывались засвеченными. Притом соседние кадры с посторонними снимками были не тронуты. Съёмка производилась фотоаппаратом "Зенит" при различном освещении и выдержке диафрагмы. Выводы делайте сами, уважаемые читатели...

*А. Кенда, историк, краевед*

# МАЛЕЦКІЯ ЭНЕРГЕТЫКІ ЗАЎСЁДЫ Ў "ФАЗЕ"

Энергетыка — гэта стратэгічная вытворчасць, якая з'яўляецца прыватнай сістэмай у прамысловым арганізме. Важнасць і значэнне гэтай вытворчасці мы адчуваем на сабе ад таго моманту, калі напрыканцы мінулага стагоддзя ў нашых вясковых хатах загарэлася першая электрычная лямпачка. Доўга не верылася ў шчасце яркага святла, таму на ўсякі выпадак людзі беражліва адносіліся да керасінавай лямпы, якая пачэсна стаяла на паліцы ў каморы, а цяпер ужо стала рарытэтам.

У нашыя дамы разам з электрычнасцю прыйшло не толькі яркае святло, але і тэлевізары, халадзільнікі, аўдыя- і відэатэхніка і мноства іншых бытавых электрапрыбораў, якія аблегчылі наша жыццё.

А абслугоўваюць гэту галіну людзі, пра якіх мы ўспамінаем толькі тады, калі ў хаце знікне святло, пагасне блакітны экран.

Але вернемся трошкі назад, у некаторай ступені да гісторыі арганізацыі самога Малецкага ўчастка. Электрыфікацыя ўчастка пачалася з 1957 года. Да гэтага часу была працягнута першая ў раёне ВЛ-10 КВ Бяроза — Пружаны, якая праходзіла праз Малеч. Ад яе была засілкавана першая трансфарматарная падстанцыя на тэрыторыі былой саўгаснай рамонтнай майстэрні.

Да 1967 года была поўнасцю завершана электрыфікацыя ўсіх населеных пунктаў. З таго часу прайшло 50 гадоў. Сёння электрычная гаспадарка Малецкага ўчастка раскінулася на тэрыторыі чатырох гаспадарак. Агульная даўжыня ВЛ-10 КВ — 171 км, ВЛ-О,4 КВ — 193 км. На тэрыторыі ўчастка ўстаноўлены 18 закрытых ТП і 119 КТП, агульнай магутнасцю 22000 КВ, і ўсю гэтую гаспадарку абслугоўвае брыгада з шасці чалавек, з якіх Стрыж В., Маркаў С., Чыжэўскі В. — электраманцёры АВБ, Жук А., Самута В. і Даніско М. электраманцёры па эксплуатацыі. Участак узначальвае майстар Шчэрба Ўл. Д. Калектыў з цеплынёй і павагай адазваўся пра свайго былога начальніка Бярозаўскай РЭС Кавальчука А. М., які на працягу амаль трыццаці гадоў узначальваў раённыя электрасеткі. Добрымі словамі хлопцы ўспамінаюць былога начальніка Малецкага ўчастка, які не так даўно выйшаў на пенсію, Кузміцкага Р. В.: "Далёка не кожнаму пашанцуе ў жыцці папрацаваць пад кіраўніцтвам такога адказнага і добрасумленнага чалавека, як Расціслаў Вячаслававіч."



*Калектыў Малецкага ўчастка электрасетак. Стаяць злева на права. В. Чыжэўскі, С. Маркаў, А. Жук, сядзяць В. Самута і М. Даніско.*



*Ветэран участка В. Чыжэўскі*

Вось, што сказаў галоўны інжынер Бярозаўскіх раённых электрасетак Канстанцін Анатольевіч Цярэшка пра энергетыкаў Малецкага ўчастка: "Я, як галоўны інжынер, скажу, што хлопцы заслугоўваюць павагі, яны адказна ставяцца да сваіх абавязкаў. Мы можам падняць іх у любы момант: ці то ў свята, выхадны дзень альбо ноччу, і яны заўсёды аператыўна збіраюцца і выязджаюць туды, дзе адбыліся нейкія непаладкі, і ніколі ад іх не чуў ніякай незадаволенасці. Напрыклад, калі быў сумна вядомы ўраган, то ўвесь наш калектыў, у тым ліку і Малецкі ўчастак кругласутачна аператыўна ліквідавалі пашкоджанні на лініях электраперадачы. Асабліва хачу адзначыць працу Валерыя Стрыжа. Гэта граматны, высокакваліфікаваны, добрасумленны і адказны спецыяліст. На наша прафесійнае свята — "Дзень энергетыка" ён быў адзначаны кіраўніцтвам "Брэстэнерга". Тое ж самае магу сказаць і пра Валерыя Самуту. Добра зарэкамендаваў сябе на працы і малады член калектыва Максім Даніско. І наогул, лічу, што хлопцы з Малецкага ўчастка ў складаныя моманты не падвядуць. Жадаю ім у Новым годзе здароўя, дабрабыту ў сем'ях і поспехаў у працы".




*Адзін з лепшых энергетыкаў участка, В. Самута*

Рэдакцыя "Крыніцы" таксама далучаецца да пажаданняў галоўнага інжынера і выказвае свае пажаданні, каб энергетыкі Малецкага ўчастка былі заўсёды ў "фазе"!

***Старонку падрыхтаваў Анатоль Сахаруша***

навіны краіны

## Храм Святителя Николая

16 декабря в Пружанах открыт и освящён новый православный храм в честь Святителя Николая. В райцентре вместе с этой уже действуют три церкви. Храм освятил епископ Брестский и Кобринский владыка Иоанн.

## Береза

12 декабря в Березовской центральной районной больнице после реконструкции открыт операционный блок. В 2005 году в райбольнице было открыто реанимационное отделение. Ведутся ремонтные работы в Белоозёрской больнице. Закончен ремонт Селецкой больницы. Изменились ФАПы и амбулатории. Переоборудуется Соколовский ФАП в амбулаторию, приобретены машины скорой помощи и медицинское оборудование.

Настоятель Свято-Петро-Павловской церкви протоиерей отец Георгий освятил операционный блок и напомнил, что в основе хирургии должна лежать любовь к людям, а операцию нужно делать лишь тогда, когда человек действительно в ней нуждается. В дар он преподнёс икону святого Пантелеимона.

**розніца**

***У Кіеве адна паездка ў метро каштуе 50 украінскіх капеек. На адзін долар можна праехаць ажно 10 разоў.***

***У той жа час кошт адной паездкі ў мінскай падземцы каштуе 600 беларускіх рублёў. За адзін долар можна праехаць усяго 3,5 разы.***

***Адчуваеце розніцу?***



Пуцін і Лукашэнка: фота агенства «РИА «Новости»

## Паўтара мільярда за адну ноч

Галоўны вынік двухдзённага візіту Пуціна: Расія дае Беларусі гіганцкі крэдыт у аб'ёме 1.5 млрд доляраў з адтэрміноўкай выплаты на 5 гадоў. У. Пуцін і А.Лукашэнка не дэманстравалі натхнення і далі абцякальныя тлумачэнні зместу двухдзённых перамоў. Ніякіх прарыўных палітычных дамоўленасцей не дасягнута. Затое па выніках візіту замежная запазычанасць Беларусі вырасце да 12 млрд. доляраў, або ў два разы больш, чым на пачатку 2006 году. У нядаўнай гісторыі ўжо быў адзін кіраўнік, які хацеў пабудаваць сацыялізм за кошт капіталістаў. Гэта быў лідэр сацыялістычнай Польшчы Эдвард Герэк у 70-ыя гады.

## ЛЕАНІД ЗАІКА:

***Каментарый эканаміста наконт крэдыта ў 1.5 млрд. $, прадастаўленага Беларусі Расіяй.***

"Сядзелі на газавай іголцы,
цяпер падселі і на фінансавую"

Менавіта так характарызуе кіраўнік аналітычнага цэнтра рашэнне Масквы захаваць ранейшыя цэны на газ.

— Усё гэта — палітычная гульня. "Газпром" цудоўна разумее, што трэба слухацца Крамля, а Крэмль — гэта Пуцін. Масква вырашыла зрабіць хітра і перспектыўна: каб утрымаць Лукашэнку ад заляцанняў з еўропай (а менавіта гэта зараз і адбываецца). Мы ж можам купляць газ і па 150 доляраў. У такім выпадку Беларусь не зможа аддаваць даўгі. Таму Расія паводзіць сябе, як хітры банкір-яўрэй, і робіць так: каб Беларусь магла аддаваць даўгі, дала ёй крэдыт памерам паўтара мільярда доляраў. Не зможа аддаць грашыма — аддасць або Мазырскім нафтаперапрацоўчым заводам., які для нас вельмі дарагі, або Наваполацкім нафтаперапрацоўчым заводам. Калі раней мы сядзелі толькі на газавай іголцы, то цяпер нас "пасадзілі" яшчэ і на фінансавую. Расія мяркуе так: няхай улазіць у даўгі. Грашыма не зможа аддаць — аддасць мэбляй, трактарамі, іншай прадукцыяй.

Схема спачатку была простая: цана на газ у першым паўгоддзі прагназавалася з разліку 125—130 доляраў ЗША. Фактычна Беларусь брала б газ у доўг. Тады пайшлі іншым шляхам: вырашылі ўзяць ніжні парог у 120 доляраў (цяпер 119). У выніку Масква недаатрымлівае каля 400 мільёнаў доляраў

## "Нафтан" прадаюць "Лукойлу"?

На Новаполацкім нафтапераапрацоўчым заводзе "Нафтан" адбылася аператыўная нарада. На ёй генеральны дырэктар прадпрыемства Вячаслаў Якушаў паведаміў, што бліжэйшым часам "Нафтан" будзе прададзены расійскай нафтавай кампаніі "Лукойл". Разам з нафтанам Расіі будзе прададзена і прадпрыемства "Палімір". Пра гэта паведаміў адзін з супрацоўнікаў заводу, які не захацеў назваць сваё імя. Паводле яго інфармацыі, "Лукойл" хоча набыць больш за 50% акцый "Нафтану".

Намеснік генеральнага дырэктара па эканоміцы і фінансах Анатоль Юдаеў сказаў: "На гэты конт ніхто ніякіх каментарыяў на заводзе пакуль даваць не будзе".

## Расійскі газ для Беларусі

Афіцыйны прадстаўнік "Газпрама" Сяргей Купрыянаў пацвердзіў цану на расійскі газ для Беларусі ў першым квартале 2008г. — 119 доляраў за тысячу кубаметраў. Гэта на 19% больш, чым у 2007 годзе.

У 2007 годзе расійскі газ для Беларусі каштаваў 100 доляраў за тысячу кубаметраў, у 2006 годзе — 46.68 долара. Кантракт аб умовах пастаўкі газу на перыяд да 2011 года быў падпісаны за дзве хвіліны да наступлення 2007 года. Згодна з дакументам, у 2008 годзе цана газу для Беларусі складзе 67% ад цаны для еўрапейскіх краін, у 2009 — 80%, у 2010 — 90%, у 2011 — 100%.

***Паведамленне БелаПАН***

## ЗАРОБАК

Са студзеня **мінімальны заробак** у суседняй Літве складзе 800 літаў, ці 388 доляраў.

Паводле курса беларускага Нацбанка — 718.328 рублёў. Гэта амаль столькі ж, колькі сярэдні заробак у Беларусі. Так, паводле звестак Міністэрства статыстыкі і аналізу нашай краіны, **налічаны сярэдні заробак** работнікаў у Беларусі ў кастрычніку склаў 738.019 рублёў (343 долары), рабочых і служачых — 756.537 рублёў (351 долар).

Так што іхні мінімум для многіх беларусаў — толькі мара.

# Юридическая страница



**Очень часто люди просят дать совет, как быть, когда к ним домой приходят сотрудники правоохранительных структур. В некоторых случаях люди в погонах прибегали к прямому шантажу и угрозам. И в самом деле, что делать, когда к вам в дверь стучится милиция. Как себя вести в такой ситуации? На эти и другие вопросы отвечает юрист Олег Волчек.**

## ВАС ВЫЗЫВАЮТ В МИЛИЦИЮ

**Помните! Все действия сотрудников правоохранительных органов должны быть в рамках закона.** Если вас приглашают в ведомство, для этого должно быть специальное приглашение в виде повестки. В ней должно быть указано: кто, когда, куда, по какому вопросу и в качестве кого приглашается.

Беседа — это не процессуальная форма общения граждан с должностными лицами, она не определена нормативными актами как обязанность гражданина явиться в ведомство. Гражданин может заявить, что он не желает беседовать с сотрудниками правоохранительных органов. Если должностное лицо получит такой отказ, он не сможет принудительно доставить данного гражданина, поскольку в Уголовно-процессуальном кодексе нет понятия «беседа», и неявка на подобную беседу не будет нести никакой юридической ответственности.

Если же вам пришла повестка от сотрудников МВД, КГБ, прокуратуры, то необходимо явиться туда в указанное время. **Желательно прийти с адвокатом или другим своим представителем. Если гражданину в этом отказывают, то он имеет право не давать никаких показаний (ст.27 Конституции РБ:** «Никто не должен принуждаться к даче показаний и объяснений против самого себя, членов своей семьи, близких родственников»). Согласно ст.62 Конституции Беларуси, каждый гражданин в любой момент может воспользоваться услугами адвоката или своего представителя (отец, мать, сестра, брат, а так-же другие лица, которые могут оказать юридическую помощь). Ваш представитель будет гарантией от провокационных действий ( запугивания, угроз, шантажа) со стороны следователя.

Во время допроса в качестве свидетеля, подозреваемого или потерпевшего составляется протокол. Чтобы убедиться, а есть ли вообще какой-либо материал проверки, **гражданин может смело попросить у следователя или оперативного работника представить тот документ, на основании которого его вызвали для дачи объяснения.**

## НЕПРИКОСНОВЕННОСТЬ ЖИЛИЩА ГРАЖДАНИНА

Второй момент. **Никто не имеет права без законного основания войти в жилище и иное законное владение гражданина против его воли.** Под жилищем понимается не только его личная квартира, но и дом со всеми постройками на земельном участке, а так же временное жилище (общежитие, гостиница, съёмная квартира).

**1.** В соответствии со ст. 210 УПК РБ, обыск может быть произведён с санкции прокурора. Основанием для его проведения является наличие достаточных данных, что в данном помещении находятся орудия преступления, документы, которые могут иметь значение для уголовного дела.

**2.** Если сотрудники милиции звонят и просят войти в ваш дом, вы можете не впускать их, если они не предоставляют на это санкцию прокурора.

**3.** В некоторых чрезвычайных ситуациях (например, когда человек кричит о помощи в доме или когда милиция преследует кого-либо) сотрудники милиции могут войти в ваш дом и обыскать его без санкции прокурора. **Требуйте составления протокола обыска, внимательно следите за всеми действиями сотрудников милиции.**

## ЧТО ТАКОЕ ЛИЧНЫЙ ДОСМОТР?

**Личный обыск гражданина проводится, если он подозревается или обвиняется в причастности к уголовному преступлению (ст.211 УПК РБ).** В любых других случаях гражданин имеет право отказать в досмотре его личных вещей.

Протокол личного досмотра составляется при личном присутствии задержанного и понятых. Сотрудник милиции обязан предъявить его задержанному для ознакомления и подписания. Задержанный должен его прочесть. Если у него нет возражений, он его подписывает, затем подписывают понятые и составитель протокола. Если в этом документе имеются пробелы или пустые места, необходимо поставить прочерки ручкой. Если есть другие нарушения (при досмотре не было понятых., не указана фамилия сотрудника милиции и т.п.), то он вправе сделать запись об этом в протокол. С этого момента такой протокол в дальнейшем не будет иметь доказательной силы при рассмотрении дела. При изъятии у задержанного вещей или отдельных предметов, может составляться отдельный протокол. **Сотрудник милиции обязан чётко описать вещи и документы, которые подлежат изъятию, в присутствии понятых. Задержанному выдаётся копия протокола.**

## НЕСКОЛЬКО ОСНОВНЫХ ПРАВИЛ, КОТОРЫЕ НЕОБХОДИМО ЗНАТЬ

**1.** К представителям правоохранительных органов вы должны являться **только по повестке.**

**2.** Вы имеете право ознакомиться со **ВСЕМИ** материалами проверки.

**3.** Вы имеете право **не давать показания против самого себя, ссылаясь на ст.27 Конст.РБ.**

**4.** Вы имеете право прийти на допрос **с адвокатом или другим своим представителем.**

**5.** Если вас приглашают на какую-то профилактическую беседу, которая, естественно, не оформляется протоколом, то **никакой ответственности вы не несёте.**

**6.** Давать показания вы можете, если в правоохранительных органах **есть материал проверки или в отношении вас возбуждено уголовное дело.**

**7.** Если ваши права нарушены незаконными действиями должностного лица, вы имеете право **подать жалобу, которая будет рассмотрена в течение 10 дней, прокурору или в суд.**

*навіна!*

## *Беларускіх тэлеканалаў стала больш!*




У тэлевізійнай прасторы ўрэшце з'явіўся першы не дзяржаўны беларускі тэлеканал — *"Белсат"*.

Запушчаны ён з 10 снежня, глядзець яго змогуць уладальнікі спадарожнікавых антэн, якія настроены на *"Астру"* і *"Сірыус"*. Асноўная канцэпцыя тэлеканала — незалежнасць і аб'ектыўнасць. Вяшчанне будзе ажыццяўляецца 16 гадзін у суткі. Афіцыйная мова тэлеканала беларуская — прынцыповае рашэнне аб гэтым пытанні ўжо прынята. *"Белсат"* з'яўляецца супрацьлегласцю дзяржаўным беларускім тэлеканалам, эфір будзе закранаць актуальныя тэмы для нашага грамадства, якія дзяржаўныя тэлеканалы не асвятляюць. Так як дзяржаўнае *ТВ* з'яўляецца пакоем «крывых» люстраў, мэта тэлеканала *"Белсат"* быць сапраўдным люстэркам, якое будзе адлюстроўваць жыццё і падзеі ў беларусі без скажэнняў.

У праграмах і перадачах *"Белсат"* прадстаўляюцца розныя погляды. Ёсць шмат якаснага еўрапейскага матэрыялу. Але ў асноўным гэта ўсё ж такі канал пра Беларусь, для беларусаў!

# Мы ўсе з трушчобаў

Проста дзіву даешся, якія нахабныя гэтыя мексіканцы. Сваё жыллё яны называюць трушчобамі. Варта толькі паглядзець іхні серыял і адразу пераканаешся ў гэтым. Калі мерыць іхнімі меркамі, то мы ўсе,за рэдкім выключэннем, з трушчобаў. І думаю, што многія з нас пагадзіліся б памяняцца ўмовамі жыцця з імі. Бачылі ў кіно, якая ў самай звычайнай мексіканскай кватэры абстаноўка? У пярэднім пакоі стаіць паўкруглая канапа. Я аккурат такую бачыла ў адным з магазінаў, дзе прадаецца дарагая мэбля. Яна там абгароджана вяровачкай, каб хто ненарокам не ўздумаў сесці. Людзі стаялі ля вяровачкі і пазіралі на канапу, як на музейны экспанат.

— Будзеце купляць? — з грэблівай усмешкай на твары спытаў вярзіла-назіральнік.

— Заўтра, — кажу я. — Сёння кніжку чэкавую забылася.

Ён кіўнуў і выраўняў усмешку: усё было зразумела.

Ля канапы праходзілі настаўнікі, урачы, кваліфікаваныя рабочыя, пра якіх пішуць “залатыя рукі”, але ніхто не меў столькі грошай, каб купіць гэты тавар. А там у сям’і працуе адна гаспадыня. Ды і работа ў яе простая: то мые для людзей бялізну, то прасуе.

Раней, яшчэ ў савецкія часы, мне часта даводзілася сустракацца з людзьмі, якія калісьці па розных прычынах пакінулі радзіму, а потым прыязджалі сюды ў госці. Здаралася, што некаторыя не былі ў сваім краі па некалькі дзесяцігоддзяў. Ах, як жа я іх асуджала! Усімі фібрамі душы, усім жарам камсамольскага сэрца. Гэта ж трэба: радзіму пакінулі, калгасаў не стварылі, камунізму не будавалі, а цяпер прыпёрліся паглядзець на нашыя поспехі і пазайздросціць.

На такія сустрэчы звычайна мы ездзілі з прадстаўнікамі органаў улады. Па першым іхнім званку ўнутранна падцягвалася, як прабачце, кавалерыйскі конь пры гуку паходнай трубы. Заўсёды была гатова кляймiць ганьбай гнілы капіталізм і ўсхвальваць наш, савецкі лад жыцця, самы шчаслівы ў свеце.

Пры прадстаўніках улады гэтыя людзі спрабавалі выцягнуць са сваёй душы нешта такое, што б кідала цень на іхняе цяперашняе жыццё і ўсхваляла наша. Але ім гэта цяжка ўдавалася. У аснoўным — сум па радзіме, па сваяках. Не спяшаліся ганьбаваць свой капіталізм. Вядома ж , думала, зайздросцяць нам.

Прыязджаў у суседнюю вёску чалавек з Канады. Мы прызначылі яму сустрэчу. Памятаю, усё спрабавалі высветліць, які ў яго дом.

— Стары прадаў, купіў новы, аддаў за яго 100 тысяч долараў, — даводзіў ён.

Але наша ўяўленне ніяк не малявала дом за 100 тысяч долараў. Не разумелі і ўсё тут. Пачалі з другога боку.

— Ну, вось ваша сястра атрымала новую добраўпарадкаваную кватэру. У вас такое жыллё ці лепшае?

— У нас такога жылля, як у сястры, наогул няма, — грэбліва адказаў ён.

Аднойчы ў нашую вёску прыехала з “гнілога” Захаду, дакладней з Францыі, жанчына ў госці да сваёй старэйшай сястры. З родных мясцін яна выехала яшчэ да вайны. Мне сказалі, што госця пажылая. І калі да нас з суседняга пакоя выйшла стройная жанчына ў элегантным бручным касцюме, я была шакіравана.

Аднойчы давялося паехаць на сустрэчу з амерыканскім госцем без прадстаўнікоў улады. Мы былі ў пакоі адны. І тое, пра што гаварыў гэты чалавек, мяне проста жахнула. Ён сказаў, што мы тут не жывем, а існуем, што мы ніколі не дагонім іхнюю краіну, як бы ні стараліся. І не толькі іхнюю. Маўляў, наша дзяржава безнадзейна адстала ад цывілізаванага свету.

Я была абурана. А ён сказаў:

— Гэта чыстая праўда. Напішаце пра гэта?

— Яшчэ чаго! Я была шчыра ўпэўнена, што гэта ўсё правакацыя. Чорная зайздрасць да нашага савецкага ладу жыцця.

Не верылася, што ў іх усё так, як расказваюць. Не хацелася верыць. Ну, хіба можна было пагадзіцца з тым, што расказваў адзін уладальнік майстэрні з той жа Канады? Ён займаўся рамонтам дахаў. У яго свая тэхніка, наймаў рабочых.

— А калі часам у чалавека вытворчая траўма, што тады? — дапытвалася я.

— Прымаючы чалавека на работу, я заключаю дагавар са страхавой кампаніяй. І ў выпадку чаго ён мае справу з ёй.

— І былі нясчасныя выпадкі?

— Аднаму рабочаму адбіла мізінец на левай руцэ. Нядаўна.

— А колькі ён атрымаў пенсіі? Госць прыжмурыў вока, нешта палічыў і сказаў:

— На вашыя грошы больш як 240 рублёў (1972год).

Я, вядома, не паверыла. Ды хіба можна ў такое паверыць, калі мой муж, атрымаўшы вытворчую траўму і страціўшы дзве трэці нагі, атрымліваў тады ўсяго толькі 15 рублёў. пенсіі. У яго была толькі трэцяя група інваліднасці.

Так хочацца, каб і наш народ жыў шчасліва, годна, каб дабрабыт быў не на словах, а на справе. Пашлі нам, Божа, Мір, Шчасце і Праўду.

***Пастаянная чытачка,***
***пенсіянерка Марыля***

## НОВОГОДНИЙ ЮМОР

***

— Ну и что вы с Машей решили по поводу Нового года?
— Мы решили — пусть наступает.

***

Новогоднее поздравление от военкомата: «Снова годен!»

***

Под новый год все восемнадцатилетние девушки гадают. А в тридцать понимают, что не угадали.

***

Предновогодний опрос: «Что на Новый год вы будете пить: водку или шампанское?
— Шампанское — 100%
— Водку — 100%
Где вы будете встречать Новый год?
— Где, где, в Караганде — 100%» (опрос проводился среди жителей Караганды).

***

Решил преподнести Новогодний подарок-сюрприз семье. Подсобрал деньжат и хотел купить дачу под Минском. Не хватило. Пришлось купить виллу в Испании.

***

На Рождество приходит девушка к гадалке.
— Меня любят двое парней. Скажи, кому из них повезёт?
Гадалка разложила карты, потом внимательно посмотрела на девушку.
— Повезёт Игорю — на тебе женится Дима.

***

Новогодний подарок вкладчикам: «Банк даёт кредиты под честное слово!»
— Это правда?
— Без проблем…
— А если я не верну?
— Вам будет стыдно перед Всевышним, когда предстанете.
— Когда это ещё будет…
— Вот, если пятого числа не вернёте, то шестого предстанете.

***

Предновогоднее желание: «Кто нашёл мой дневник, прошу не возвращать. Вася».

***

Жена говорит мужу, разглядывая журнал мод:
— В Новом году мужчины будут носить пиджаки без пуговиц.
— Вот это да! Значит, я уже пятнадцать лет модно одет.

***

Праздник Новый год — это ужин, плавно переходящий в завтрак. Вопрос только — на которые сутки. С НОВЫМ ГОДОМ!

***

Палата в родильном доме. Обход профессора. Вопросы, ответы...
Оказалось, что все собрались рожать в один день — 1 октября. Профессор удивлен. Ему объясняют:
— А мы в одной компании Новый Год встречали.

***

Две собаки заглянули на Новый год в дискотеку.
— Если бы я так дергалась, — покачав головой, говорит одна другой, - то хозяин немедленно вымыл бы меня антиблошиным средством!

Калі Вас зацікавіла нашае выданне, і Вы хацелі б яго атрымліваць альбо маеце, каб прапанаваць для ўвагі чытачоў якую цікавую інфармацыю ці тэму для наступных нумароў, Вы можаце пазваніць па тэлефоне: 27-3-08 — альбо даслаць ліст на адрас: 225210, г. Бяроза, а/с 5

*Выдаецца на беларускай (наркамаўкай і тарашкевіцай) і рускай мовах*
Заснавальнік і рэдактар: **Анатоль Сахаруша**
Наклад: ***299*** асобнікаў
**Адрас для допісаў:**
225210, г. Бяроза, а/с 5
Тэлефон: 27-3-08
***Распаўсюджваецца бясплатна***